ПРАВА ВЕСНІК АБАРОНЧЫ

КАСТРЫЧНІК, 2013

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Павел Сапелка пра ЛПП, умоўна-датэрміновае вызваленне і алкагалізм СТАР. 3

Новае рашэнне аб масавых мерапрыемствах - старыя праблемы для арганізатараў СТАР. 4




# “Amnesty International”: Праваабарончая прэмія імя Вацлава Гавэла прысуджаная беларускаму вязню сумлення

***Алесь Бяляцкі, беларускі праваабаронца і вязень сумлення, уганараваны правабарончай прэміяй імя Вацлава Гавэла ў знак прызнання яго працы па паляпшэнні становішча з правамі чалавека ў ягонай краіне ды за вялікую асабістую рызыку, якой ён падвяргаўся ў сваёй дзейнасці.***

Алесь Бяляцкі, беларускі праваабаронца і вязень сумлення, уганараваны правабарончай прэміяй імя Вацлава Гавэла ў знак прызнання яго працы па паляпшэнні становішча з правамі чалавека ў ягонай краіне ды за вялікую асабістую рызыку, якой ён падвяргаўся ў сваёй дзейнасці.

“Атрыманая Алесем Бяляцкім прэмія адзначае ягоную мужную працу ў галіне правоў чалавека ў неспрыяльных умовах ды ягоныя вялікія асабістыя ахвяры ў ейнае імя. Акрамя таго, гэта знак асуджэння беларускіх уладаў за пераслед праваабаронцаў ды нападкі на свабоду аб'яднання, сходаў і выказвання меркаванняў, " кажа Хізэр Макгіл, даследчык Amnesty International па Беларусі

Алесь Бяляцкі ў цяперашні час адбывае чатыры з паловай гады турэмнага зняволення за дзейнасць у галіне правоў чалавека ў якасці кіраўніка праваабарончага цэнтра “Вясна” ў Беларусі.

Арганізацыя праводзіць кампаніі супраць смяротнага пакарання, катаванняў і іншых відаў жорсткага абыходжання, а таксама з падтрымку палітычных зняволеных.

“Вясна” была зачыненая ў 2003 годзе, што дало ўладам магчымасць ужываць судовы пераслед у дачыненні да ейных членаў за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі, і зрабіла немагчымым наяўнасць арганізацыйнага банкаўскага рахунку ў Беларусі.

Алесь Бяляцкі быў арыштаваны ў сувязі з выкарыстаннем ягоных асабістых банкаўскіх рахункаў у Літве і Польшчы для падтрымкі праваабарончай дзейнасці ягогай арганізацыі ў Беларусі. 24 лістападзе 2011 ён быў прысуджаны да турэмнага зняволення за “ўтойванне даходаў у буйных памерах".

Суд парушыў міжнародныя стандарты справядлівага судовага разбору ў некалькіх адносінах, і Amnesty International лічыць , што абвінавачванні й прысуд спадару Бяляцкаму з'яўляюцца палітычна матываванымі і маюць на мэце перашкодзіць яго законнай дзейнасці ў якасці праваабаронцы. Amnesty International лічыць Алеся Бяляцкага вязнем сумлення, пазбаўленым свабоды выключна з-за сваёй дзейнасці ў галіне правоў чалавека, і працягвае заклікаць да яго неадкладнага й безумоўнага вызвалення.

У мінулым месяцы ягоная жонка, Наталля Пінчук, распавяла Amnesty International:

«*Я найбольш занепакоеная тым, як ён выжывае ў Бабруйскай калоніі. Ён жыве ў складаных і жорсткіх умовах. Ён не толькі знаходзіцца ў турме, адміністрацыя забараніла яму зносіны з іншымі вязнямі. Зняволеныя, якія маюць якія-небудзь кантакты з Алесем кажуць, што яны могуць страціць свае льготы, уключаючы правa на ўмоўна- датэрміновае вызваленне, або быць падвергнутыя пакаранню. Доўгі тэрмін пазбаўлення волі пагражае ягонаму здароўю.*»

Праваабарончая прэмія імя Вацлава Гавэла прысуджаецца штогод Парламенцкай асамблеяй Рады Еўропы ў партнёрстве з бібліятэкай Вацлава Гавэла бібліятэкі ды Фондам Хартыі '77 для заахвочвання выбітных дзеянняў грамадзянскай супольнасці ў абароне правоў чалавека ў Еўропе і за яе межамі.

**http://spring96.org/**

*Праваабаронцы правялі "Тыдзень супраць смяротнага пакарання". Кульмінацыяй тыдню стаў 10 кастрычніка - Сусветны дзень змагання супраць смяротнага пакарання.*

*На гэты дзень былі запланаваная прэсавая канферэнцыя з роднымі асуджаных на смяротнае пакаранне, ды іншыя мерапрыемствы. Беларусь - адзіная краіна ў Еўропе, дзе смяротнае пакаранне існуе. Нашу студыю наведала Алена Лапцёнак з Праваабарончага цэнтра "Вясна".*

**РР: Беларусь - адзіная краіна ў Еўропе, дзе існуе такая мера пакарання, як смяротная кара. Ці Беларусь гатовая да таго, каб, нарэшце адмовіцца ад смяротнага пакарання?**

Алена Лапцёнак: Калі мы гаворым "ці гатовая Беларусь", мы павінны разумець, што маем на ўвазе, перш за ўсё, дзяржаву, кіраўніцтва краіны. Зараз няма ніякіх перашкодаў для таго, каб адмяніць смяротнае пакаранне альбо ўвесці мараторый. Але няма на гэта палітычнай волі.

**РР: Кампанія "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання" трывае дастаткова доўга… Мне здаецца, што ёсць зрухі ў тым, што беларусы пачынаюць разумець, што гэтая мера пакарання не адпавядае гуманным нормам.**

Алена Лапцёнак: Цяжка гаварыць пра меркаванне большасці беларусаў. Толькі незалежныя сродкі масавай інфармацыі і праваабаронцы ўздымаюць гэтую тэму. Таму, можа быць, часам людзі думаюць, што гэта патрэбна толькі праваабаронцам. А наша задача ў тым, каб узняць дыскусію ў грамадстве. Шырокую дыскусію, і каб дзяржаўныя органы і дзяржаўныя СМІ прымалі ў гэтым удзел.

**РР: Але само па сабе пытанне смяротнага пакарання не шырокае. Яно тычыцца нейкага чалавека, які здзейсніў злачынства, і яго за гэта пакаралі. Чаму мяне, звычайнага чалавека, павінна гэта хваляваць?**

Алена Лапцёнак: Гэта пытанне жыцця і смерці - глыбока-філасофскае. Смяротнае пакаранне - гэта забойства ад імя дзяржавы. І калі мы патрабуем пакараць смерцю забойцу, які здзейсніў забойства, то чым мы лепей за забойцу? Вось над гэтым трэба задумацца. Вельмі часта прыхільнікі смяротнага пакарання кажуць: "А вось калі бы вашага сваяка забілі?" Па-першае, гэта эмоцый.

**РР: Пасля выпадку, калі расстралялі Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава, у грамадстве пашырылася гэтае пытанне смяротнага пакарання. Бо людзі, якія сачылі за судовым працэсам, не маглі зразумець: ці гэтыя людзі сапраўды гэта здзейснілі, ці судовай сістэме можна верыць?**

## Алена Лапцёнак:

# Смяротнае пакаранне - гэта забойста ад імя дзяржавы




некарэктна. А па-другое, чаму вы прапаноўваеце стаць на месца ахвяры, а не на месца родных асуджанага? Альбо на месца ката, які выконвае прысуд? А вось, вы станьце на месца ката і вазьміце ў рукі пісталет…Вы гэта зробіце?

**РР: У планах "Тыдня супраць смяротнага пакарання" адзначана, што пачне працаваць інтэрнэт-рэсурс, у Менску ды рэгіёнах будуць ладзіцца тэматычныя дыскусіі… Значыць, праваабаронцы разумеюць, што недастаткова ў нашым грамадстве на сёння інфармацыі на гэтую тэму. Гэтае пытанне пра смяротнае пакаранне - рацыянальнае ці эмацыйнае?**

Алена Лапцёнак: Мы зноў вяртаемся да пытання, што ў выпадку смяротнага пакарання адбываецца забойства ад імя дзяржавы, а дзяржава пазбаўленая

Алена Лапцёнак: Калі браць тую гучную справу, то ад самага пачатку ўлады пачалі дэманстраваць, як хутка яны раскрываюць гэтую справу.

І тое, што было шмат несупадзенняў, і тое, што нават сярод ахвяраў было шмат людзей, якія не верылі, што тыя два чалавекі датычныя да гэтага злачынства, і ўзняло гэтую хвалю. Доказная база была слабая. Але, расстралялі… і ўсё сціхла.

**РР: Як бы Вы зараз ацанілі дыскусію пра смяротнае пакаранне ў грамадстве?**

Алена Лапцёнак: Зараз у незалежны СМІ ўздымаецца гэтая тэма, але гэта недзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, а мы імкнемся, каб дыскусія адбывалася на ўсіх роўнях.

**Гутарыў Улад Грынеўскі, Беларускае Радыё Рацыя**

# Павел Сапелка пра ЛПП, умоўна-датэрміновае вызваленне і алкагалізм



**Начальнік Дэпартамента выканання пакаранняў МУС РБ Сяргей Дарошка правёў 1 кастрычніка "прамую лінію", стэнаграма пытанняў і адказаў якой змешчаная ў газеце "Советская Белоруссия".**

Сярод іншых было зададзена пытанне аб тым, ці можа чалавек, якога змясцілі ў лячэбна-папраўчы прафілакторый, быць вызвалены раней тэрміну.

Адказ Сяргея Дарошкі быў такім: "Нашым заканадаўствам пакуль не прадугледжана ўмоўна-датэрміновае вызваленне ў сістэме ЛПП, таму ваш сваяк будзе знаходзіцца ў ізаляцыі на працягу ўсяго тэрміну. Аднак прапановы аб з'яўленні такой нормы, як датэрміновае вызваленне з ЛПП, ужо знаходзяцца на разглядзе ў Парламенце. ПЦ"Вясна" звярнулася да юрыста-праваабаронцы Паўла Сапелкі, які пагадзіўся пракаментаваць словы чыноўніка і адказаць на некалькі пытанняў наконт ЛПП і нібыта лячэння, якое там праводзіцца.

**– Сяргей Дарошка разважае пра ўмоўна – атэрміновае вызваленне для пацыентаў ЛПП. Аднак грамадства ўвесь час пераконваюць у тым, што гэтыя ўстановы, хаця і прымусова, аднак лечаць ад алкагалізму. Выходзіць, што ад лячэння можна будзе вызваліцца датэрмінова?**

– Начальнік ДВП МУС дапамагае чытачам пазбавіцца ад ілюзій - ён называе рэчы сваімі імёнамі. ЛПП - гэта месца пазбаўлення волі, паколькі грамадзянам, якія знаходзяцца ў лячэбна -працоўных прафілакторыях забаронена іх самавольна пакідаць; на іх накладзены шэраг абмежаванняў - на спатканні з роднымі, на распараджэнне ўласным заробкам, на карыстанне асабістымі рэчамі і вольным часам. Яны і іх рэчы падлягаюць наглядy. Яны абавязаны працаваць, выконваць распараджэнні аховы і выконваць рэжым пад пагрозай прыцягнення да дысцыплінарнай адказнасці або падаўжэння тэрміну ўтрымання ў ЛПП да паўгода. Грамадзянскім працэсам нават не прадугледжаны асобна парадак разгляду скаргаў на накладзеныя спагнанні (адпаведны закон яшчэ толькі разглядаецца). Таму тэрмін з крымінальнага права – умоўна-датэрміновае вызваленне – вельмі дарэчы.

ЛПП – гэта арганізацыя, якая ўваходзіць у сістэму органаў унутраных спраў Рэспублікі Беларусь, якая ствараецца для прымусовай ізаляцыі і медыка-сацыяльнай рэадаптацыі з абавязковым прыцягненнем да працы грамадзян, хворых на хранічны алкагалізм, наркаманію або таксікаманію. Заканадавец не выпадкова на першую пазіцыю паставіў задачу прымусовай ізаляцыі: лячэннем медыцынскімі метадамі зняволеных ў ЛПП не песцяць . Не вядзецца нават статыстыкі таго, колькі зняволеных за час знаходжання ў ізаляцыі вылечваюцца ці хаця б надоўга «завязваюць» са спіртным.

ЛПП – гэта месца пазбаўлення волі, куды людзі змяшчаюцца не па прысуду суда, а на падставе рашэння, прынятага ў рамках грамадзянскага судаводства. Падставай пазбаўлення волі з'яўляецца не здзяйсненне злачынства, а хвароба (хранічны алкагалізм, наркаманія або таксікаманія) і здзяйсненне ў стане алкагольнага ап'янення правапарушэнняў (за якія асоба, як правіла, панесла адміністрацыйную адказнасць).

Пазбаўляючы людзей волі, дзяржава не спяшаецца прыняць на сябе клопаты па іх утрыманню: з заработнай платы і прыроўненых да яе даходаў грамадзян, якія знаходзяцца ў лячэбна -працоўных прафілакторыях, робяцца ўтрыманні кошту харчавання, адзення і абутку, камунальна - бытавых паслуг, а таксама іншыя ўтрыманні ў адпаведнасці з актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Нарэшце, «зацікаўленыя асобы» (так называюць у працэсе асоб, якія накіроўваюцца ў ЛПП) пазбаўленыя нават мінімальных гарантый, прадугледжаных крымінальна - працэсуальным законам. Грамадзянскім працэсам, напрыклад, не прадугледжаны асобна парадак разгляду скаргаў на папярэджанне, якое папярэднічае звароту ў суд за рашэннем аб ізаляцыі. У адрозненне ад абвінавачаных, зацікаўленым асобам не прадастаўляецца ні юрыдычная дапамога за кошт сродкаў бюджэту, ні бясплатная кансультацыя адваката.

Таму сістэма ЛПП павінна быць ліквідаваная. Заканадаўцам трэба не ўдасканальваць гэты цуд, «народжаны ў СССР», а прыняць прынцыповае рашэнне, магчыма з падачы Канстытуцыйнага Суда, аб адмене адпаведнага закона.

**– Але праблема застаецца, У Расіі, напрыклад, ЛПП ліквідавалі яшчэ ў 1994 годзе і толькі цяпер задумваюцца аб тым, што нічога ўзамен не стварылі?**

– Так, на тэрыторыі ўсяго былога СССР ЛПП засталіся толькі ў Туркменістане і ў самаабвешчанай Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспубліцы. Беларусы, як бачна, у добрай кампаніі , у гэтых дзяржавах таксама няблага, гэтак жа як і ў нас, ідуць справы з правамі чалавека.

Якая альтэрнатыва? Мне бачыцца гэта так: чалавек, які здзейсніў адміністрацыйнае правапарушэнне ў стане ап'янення, павінен быць асуджаны як хуліган, дэбашыр, як чалавек, які падвяргае блізкіх хатняму гвалту, а не як алкаголік або наркаман. Калі існуючы закон не дае эфектыўнага інструмента, трэба яго – закон – дапоўніць, уводзячы павышаную адказнасць за здзяйсненне сістэматычных правапарушэнняў супраць грамадскага парадку, а можа, і крыміналізуючы іх.

Калі мы гаворым пра чалавека, які небяспечны для сябе і навакольных у сілу хваробы, то такі чалавек павінен быць падвергнуты прымусоваму абследаванню і адпраўлены ў далейшым на прымусовае лячэнне.

Калі чалавек нармальна рэагуе на прафілактычныя мерапрыемствы – ён павінен атрымаць дзяржаўныя дапамогу і рэабілітацыю. Дарэчы, з гэтых трох варыянтаў месца міліцыі ёсць толькі ў першым. У астатніх двух – паліцэйскае ўздзеянне зусім непатрэбна.

**spring96.org**

# Гомель: новае рашэнне аб масавых мерапрыемствах – старыя праблемы для арганізатараў



*Напачатку верасня ўступіла ў сілу новае рашэнне Гомельскага гарвыканкаму аб масавых мерапрыемствах. Улады дэкларавалі, што прынятае яно з мэтай «пашырэння пераліку месцаў для правядзення масавых мерапрыемстваў, а таксама ўдасканалення ўзаемадзеяння арганізатараў масавых мерапрыемстваў і мясцовых органаў улады». Разам з тым, хоць месцы і пашырыліся (замест адной пляцоўкі – дзве), але вызначылі іх у такім месцы, што патэнцыйных удзельнікаў пікетаў ці мітынгаў прыйшлося б прывозіць туды на адмыслова арэндаваным транспарце. Месцы тыя ў аддаленых раёнах.*

«Мясцовыя чыноўнікі ўсталявалі два новыя месцы – прадэманстравалі лібералізацыю ў гэтым плане. Але калі прыгледзецца да гэтых месцаў, дык яны яшчэ горш - таму што знаходзяцца на ўскраінах горада, там, дзе сустрэць жывога чалавека можна толькі ў выглядзе гаспадара, які выгульвае сабаку», - **зазначае праваабаронца Леанід Судаленка.**

«Старое» рашэнне дазваляла праводзіць масавыя мерапрыемствы ў адным-адзіным месцы ў горадзе – на пляцоўцы перад ДК «Віпра» таварыства глухіх, уключаючы дэманстрацыі і шэсці (на фота). Як на практыцы было магчымым правесці на адкрытай пляцоўцы 100 на 100 метраў шэсце альбо дэманстрацыю? «Гарвыканкам, напэўна, уяўляў - яго рашэнне дзейнічала ў горадзе больш за пяць гадоў. Часта ў судах рашэнне гарвыканкама па гэтым пытанні нават у суддзяў выклікала здзіўленне», - звяртае ўвагу праваабаронца.

Ён аналізуе сітуацыю з заключэннем арганізатарамі масавых мерапрыемстваў дамоў, калі для трох ці пяці чалавек, якія стаяць у пікеце, патрабаваўся ўзвод АМАП для аховы грамадскага парадку, карэта хуткай дапамогі і брыгада дворнікаў. Па словах Леаніда Судаленкі, аспрэчваючы аднойчы ў судзе абавязак заключаць вось гэтыя дамовы, ён правёў паралелі. Напрыклад, што было б, калі б гарвыканкам прыняў рашэнне, паводле якога кожны з пасажыраў грамадскага транспарту перад тым, як зайсці ў тралейбус, быў бы абавязаны яшчэ заключыць дамову на ахову грамадскага парадку ў салоне тралейбуса падчас паездкі? За тралейбусам за яго кошт павінна ехаць хуткая дапамога (ці мала каму стане дрэнна), і за кошт пасажыра трэба ў канцы дня прыбраць салон тралейбуса.

«Абсурд? Не менш абсурдным выглядае і рашэнне! У зале суду, калі я пра гэта гаварыў, смяяліся ўсе, нават чыноўнік з гарвыканкаму», - узгадвае суразмоўца.

У Камітэце па правах чалавека ААН на разглядзе зараз знаходзіцца больш за 30 скаргаў з Гомельскай вобласці, у якіх, апроч іншага, заяўнік просяць адмяніць «старое» рашэнне аб масавых мерапрыемствах. Па гэтых скаргах ідзе камунікацыя з урадам краіны, які вымушаны пастаянна тлумачыць еўрапейцам: чаму ў паўмільённым горадзе для мірных сходаў грамадзян існуе адзіная пляцоўка, і чаму за дазвол на іх правядзенне трэба плаціць. Акрамя таго, ёсць заключэнне Венецыянскай камісіі, у якім Закон аб масавых мерапрыемствах прызнаны не адпавядаючым праву кожнага на свабоду правядзення мірных сходаў і, як следства - на свабоду выказвання свайго меркавання. «Мяркую, што вось гэтыя ўсе абставіны і падштурхнулі ўладу выкласці мясцовае рашэнне ў новай рэдакцыі. Але новае рашэнне сітуацыі прынцыпова не змяніла», - упэўнены Леанід Судаленка.

Ён з паплечнікамі звярнуліся ў верасні ў пракуратуру Гомельскай вобласці наконт законнасці новага рашэння. Але адказ быў такі: рашэнне зарэгістравана ў Нацыянальным рэестры нарматыўна-прававых актаў, прайшло экспертызу, значыць, з'яўляецца законным. Так лічыць намеснік пракурора Гомельскай вобласці Вадзім Сушчынскі. «І ні слова ў адказе пра тое, што закон дазваляе праводзіць сходы ў любых прыдатных для гэтых мэтаў месцах, а рашэнне забараняе! Пракуратуру не цікавіць - чаму ў абласным цэнтры вось ужо 10 гадоў улада забараняе праводзіць мірныя сходы грамадзян», - абураецца суразмоўца.

Такія рашэнні існуюць ва ўсіх абласных і раённых цэнтрах, за выключэннем Мінску. Толькі ў сталіцы кожная заяўка на масавае мерапрыемства разглядаецца індывідуальна, толькі там улада дазваляе правядзенне масавых мерапрыемстваў. У іншых месцах, у тым ліку ў Гомелі – поўная забарона. У Гомелі з 2004 году ўлады не дазволілі ніводнага пікету альбо мітынгу. Новае рашэнне, як бачым, не спрыяе выпраўленню такой сітуацыі.

**spring96.org**

Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.